Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

№8(620) 23 лютага 2012 года.

Кошт свабодны.

Браслаўскі раён

# Час размаўляць па-беларуску

■ Станіслаў Раманчук

**Толькі сляпы не можа не бачыць гаротнага становішча роднай мовы ў краіне і масавую русіфікацыю, якая ахапіла беларускае грамадства.**

Аднак, на шчасце, у глыбінцы застаюцца яшчэ людзі, якія не жадаюць мірыцца з гэтым. Вось і ў Браслаўскім раёне напярэдадні абвешчанага ЮНЕСКА міжнароднага дня роднай мовы стартавала акцыя “Час чытаць на роднай мове”. Яна будзе доўжыцца нават болей паўгода да Дня беларускага пісьменства, які пройдзе ў пачатку верасня ў Глыбокім. Сёлета ў азёрным краі найбольш розных культурна-масавых мерапрыемстваў запланавалі правесці ў цэнтральнай раённай бібліятэцы. На яе базе адным з першых правялі модны зараз флеш-моб “Сёння размаўляем па-беларуску”. Усе наведвальнікі бібліятэкі ў райцэнтры спрабавалі ў той лютаўскі дзень карыстацца толькі роднай мовай. Для саміх жа супрацоўнікаў гэта не ўяўляе ніякай праблемы, бо бібліятэкары адчуваюць сябе сапраўднымі беларусамі, не цураюцца сваіх каранёў і спрадвечнай культуры. Таму ва ўстанове ўсё справаводства вядзецца па-беларуску, на роднай мове ладзяцца ўсе літаратурныя імпрэзы, адкрытыя прагляды кніжных навінак, сустрэчы з аўтарамі. Менавіта па-беларуску афармляюцца інфармацыйныя даведнікі, каталогі і бібліятэчныя выставы. Калі супрацоўнікі бібліятэкі сталі размаўляць паміж сабой па - беларуску, то дзіўна, але гэта толькі з’яднала калектыў, зрабіла ўсіх больш блізкімі адзін да другога.



Полацкі раён

# Ой, мароз, не марозь людзей!

■ Чэслаў Якубовіч

**На працягу чвэрці стагоддзя не было ў Прыдзвінні такіх зацяжных працяглых маразоў.**

У дадатак да моцнага пахаладання Полацкі раён багата засыпала снегам. Аднак, як і ў іншых рэгіёнах вобласці, дзякуючы зладжанай дзейнасці мясцовых важнейшых службаў жыццязабеспячэння тут не дапусцілі надзвычайных здарэнняў, правялі своечасовую ачыстку тэрыторыі і дарог. Пастараліся ў старэйшым горадзе Беларусі паклапаціцца і аб тых людзях, якім найбольш цяжка прыйшлося ў гэты перыяд. Паблізу аўтавакзала ў райцэнтры арганізавалі пункт выдачы гарачага харчавання для бяздомных з палявой кухняй. У вызначаны тэрмін сюды маглі прыйсці асобы без пастаяннага месца жыхарства і паесці бясплатна адварной бульбачкі з гарачым чаем. Аб гэтым паклапаціліся работнікі папулярнай закусачнай “Бульбяная” з прадпрыемства “Полацкгандаль”. Праўда, у самы пік маразоў прыйшлося пахваляваца жыхарам двух шматпавярховак па вуліцы Ленінградскай. Пасля абеду па ёй праязджаў грузавы аўтамабіль МАЗ з буйнагабарытным грузам. Кіроўца не ўлічыў гэты фактар і падчас руху зачапіў надземны трубаправод цеплатрасы, і адбыўся яе прарыў. На месца здарэння былі выкліканы 4 адзінкі рамонтнай тэхнікі, перакрыта падача цяпла. Некалькі брыгад спецыялістаў працавалі і калі добра прымарозіла, а да адной гадзіны ночы ім удалося аператыўна ліквідаваць аварыю. А яшчэ праз 10 мінут, да радасці жыхароў 24 кватэр, пацяплелі іх радыятары ацяплення ў жылых пакоях. Аднак у маразы ў вобласці былі і трагедыі, люты холад забраў па аднаму жыццю мужчын у Глыбоцкім і Пастаўскім раёнах.

Пастаўскі раён

# Пазбавіцца згубнай звычкі

■ Кастусь Александровіч

**Алкагалізацыя сярод беларусаў дасягнула трывожных памераў.**

Каб неяк супрацьстаяць гэтаму злу, у Пастаўскім раёне па ініцыятыве мясцовага кіраўніцтва і каталіцкіх святароў правялі спецыяльную акцыю – тыдзень цвярозасці. Да радыкальных мер, забароны продажу спіртных напояў справа не дайшла, бо ў рэгіёне па-ранейшаму такія абмежаванні дзейнічаюць у сельскай мясцовасці ў дні выдачы там заробкаў. Асноўны ўпор падчас акцыі быў зроблены на прафілактыку, у раён былі запрошаны актывісты рэспубліканскага таварыства ананімных алкаголікаў з Гродна, Мінска, Слоніма, іншых куткоў краіны. Усе яны знайшлі ў сябе сілы адмовіцца ад злоўжывання алкаголю. Разам з іншымі спецыялістамі, псіхолагамі правялі больш 40 сустрэч у розных калектывах. Таксама праводзілася індывідуальная праца і кансультацыі з асобнымі сем’ямі, быў праведзены “круглы стол”, а па вечарах ва ўсіх касцёлах на працягу тыдня вернікі маліліся за вяртанне да здаровага ладу жыцця. Дзякуючы акцыі ёсць першыя вынікі: на Пастаўшчыне з’явілася свая група ананімных алкаголікаў, і тут спадзяюцца, што хоць некалькі чалавек пазбавяцца згубнай звычкі. Пакуль жа ў раёне толькі на ўліку ў нарколагаў знаходзяцца амаль 1100 чалавек, з іх 225 жанчын. Ад злоўжывання алкаголем летась тут было здзейснена 38 злачынстваў, 16 чалавек атруціліся, а 10 загінулі на пажарах на падпітку.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 23.02.12 | | | | Пятніца 24.02.12 | | | | Субота 25.02.12 | | | | Нядзеля 26.02.12 | | | | Пнд. 27.02.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | -2 | +4 | 0 | -2 | -3 | +4 | +2 | 0 | -1 | +5 | +1 | -3 | -4 | +2 | -3 | -6 | -7 | +1 |
| Ціск | 742 | 736 | 727 | 727 | 734 | 737 | 735 | 731 | 728 | 729 | 729 | 733 | 735 | 737 | 738 | 740 | 741 | 743 | 743 |
| Вільготнасць | 92 | 96 | 80 | 90 | 89 | 97 | 83 | 91 | 94 | 93 | 82 | 87 | 91 | 89 | 65 | 72 | 79 | 78 | 48 |
| Вецер м/сек | 7 Ю-З | 8 Ю-З | 8 Ю-З | 11 С-З | 9 С-З | 6 С-З | 3 З | 1 З | 6 З | 8 З | 7 С-З | 7 С | 5 С-З | 8 С-З | 8 С-З | 8 С-З | 6 С-З | 7 С-З | 6 С |

# Лічба нумара

## 18000

– на столькі чалавек, па дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі, павялічылася ў нашай краіне летась колькасць пенсіянераў. Пры гэтым карэннае насельніцтва ў РБ штогод змяншаецца на фоне агульнага старэння нацыі. Зараз гэта тэндэнцыя стала трывожнай і ўстойлівай, паколькі нас ужо меней 9,5 мільёнаў ( а было ж і 10 млн.), а вось розных беларускіх пенсіянераў (звычайных, ваенных і па лініі МУС) у пачатку 2012 года налічвалася амаль 2,5 мільёны чалавек, практычна кожны чацвёрты жыхар рэспублікі і нават крыху болей.

Спецыялісты звяртаюць увагу на тое, што ў нашай краіне пры гэтым існуе адчувальная праблема сыходу з жыцця многіх тысяч беларусаў у працаздольным узросце, якія паміраюць па розных знешніх прычынах, так і не становяцца пенсіянерамі-“мільянерамі”. Спыніць непажаданы працэс старэння нацыі і зніжэння колькасці насельніцтва не ўдаецца і нават індустрыяльна развітым, багатым дзяржавам. Менавіта дэмаграфічная сітуацыя вымушае і беларускае кіраўніцтва думаць аб непазбежным павелічэнні пенсійнага ўзросту з цяперашніх 55/60 гадоў для адпаведна жанчын і мужчын. Зараз у краіне працуе больш 4 млн. чалавек, аднак да 2030 года на 100 работнікаў будзе прыпадаць ужо 63 непрацаздольныя суайчыннікі.

Пакуль айчынная пенсійная сістэма працуе без збояў, пенсіі выплочваюцца без затрымак у вызначаны тэрмін, хоць у мінулым годзе рэальна яны для пажылых суайчыннікаў скараціліся на чвэрць пасля абвальнай дэвальвацыі і росту цэн на 109 %. Аднак адначасова нагрузка на працаздольнае насельніцтва расце, а па меры пагаршэння спраў у беларускай эканоміцы падае трываласць пенсійнага Фонду. Калі яшчэ летась у пачатку года, як паведаміла міністр працы і сацабароны РБ Марыяна Шчоткіна, рэзервных сродкаў на выплату пенсій і дапамог Фонд меў на 5 месяцаў наперад, то ў студзені 2012 года на рахунках ёсць грошы дзесьці крыху больш на адзін квартал.

Між тым рост цэн у Беларусі дагэтуль не спыніўся, праўда, пакрыху намінальныя пенсіі павялічваюць на фоне інфляцыі. Ужо не сакрэт, што па заробках беларусы – ўяўныя аўтсайдары ў Еўропе, сталі саступаць па іх памерах, як і па ўзроўню пенсій у разы нашым саюзнікам па АЭП, грамадзянам Расіі і Казахстана (толькі ў расійскіх ваенных пенсіянераў пенсіі сёлета ў студзені выраслі яшчэ ў 1,5-2 разы). Адарваліся ад беларусаў па памерах пенсій і нашы суседзі – літоўцы, палякі, славакі, дзе мінімальныя сумы пенсій 300 долараў і вышэй сталі звыклымі, а цэны на тавары і на прадукты часта ніжэйшыя, чым у нас. Дзе сытней і заможней жыць, не будзем параўноўваць, але відавочна, што беларусы ў састарэлым узросце вымушаны жыць больш сціпла, эканомна, па “сродках”, як заклікае прапаганда.

Старэнне насельніцтва і ўзровень жыцця будзе стымуляваць многіх састарэлых людзей адкладваць на больш позні тэрмін свой выхад на пенсію па ўзросце. Дарэчы, многія беларусы працягваюць працаваць і на заслужаным адпачынку, калі дазваляе здароўе. Дзяржава ў гэтым зацікаўлена, паколькі Беларусь уласных сродкаў для развіцця і на той жа Фонд сацыяльнай абароны мае нямнога, крэдытныя рэсурсы дарагія. Дайшло да таго, што кіраўніцтва РБ накіравала ў Крэмль пісьмо аб фінансавай дапамозе Расіі ў пытанні павышэння заробкаў беларускіх вайскоўцаў. Раней прасілі суседзяў пасадзейнічаць у мадэрнізацыі ўзбраенняў беларускай арміі.

Справа ў тым, што ў нас ужо пачаўся адток кваліфікаванай рабочай сілы на прасторы РФ, дзе плоцяць за адну і тую ж працу значна болей. У беларускіх пенсіянераў магчымасці значна меншыя і са сваімі невысокімі даходамі яны і ў старасці вымушаны працаваць на прысядзібных і дачных участках, рабіць нарыхтоўкі з дароў садоў і агародаў на зіму, пакуль хапае моцы корпацца з раніцы да цямна ў зямлі. Нельга ў нас жыць як набяжыць, планаваць замежныя паездкі і заморскія круізы. Беларусы, як і за савецкім часам вымушаны жыць практычна усё сваё жыццё для таго, каб толькі працаваць і працаваць, як цяглавы конь па гаспадарцы. Сёлета ж паабяцалі ўсім вяртанне дакрызіснай пакупніцкай здольнасці. Але цікава, які гэта ўзровень, калі ў Беларусі крызіса не было?

## Дзень за днём

**Беларусь пакуль не гатова, як заявілі ў Нацбанку, да ўвядзення расійскага рубля і просіць у МВФ чарговы крэдыт. Сёлета на аплату знешніх даўгоў трэба адправіць больш 1,6 млрд. долараў, знешні доўг РБ толькі ў снежні летась вырас яшчэ на 1,4 млрд. $ і дасягнуў 13,4 мільярдаў. У краіне ў лютым на 23 % павысілі бюджэт пражытачнага мінімуму і адпаведна на столькі памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей. Дзяржпрадпрыемствы за перарасход электрычнасці будуць плаціць у 2 разы болей. Па працягласці анамальных халодных дзён пасярод дагэтуль надзвычай цёплай зімы гэты год запомніцца надоўга, ён нагадвае самы халодны 1940 год мінулага стагоддзя.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** МЗС краіны і Англіі рэзка асудзілі Расію за пастаўкі зброі Сірыі, якой правячы рэжым жорстка падаўляе народныя акцыі пратэсту і не думае спыняць праліццё крыві.

**Італія.** Патанулы круізны лайнер "Коста Канкордзія" вагой больш 114 тысяч тон вырашана паднясць з вады на працягу 10 месяцаў, трэба адкачаць і 2,3 тыс. тон саляркі.

**ЗША.** Міністр абароны Леон Панета аб'явіў аб скарачэнні на працягу 5 гадоў Узброеных сіл і корпуса марской пяхоты на 100 тысяч ваеннаслужачых і ўзмацненні элітных часцей.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уго Чавес прыгразіў нацыяналізаваць шэраг банкаў краіны ў выпадку, калі яны не будуць падтрымліваць яго праект па развіццю сельскай гаспадаркі.

**Сербія.** Патрыярх Рускай праваслаўнай царквы Кірыл зноў заявіў у інтэрв'ю газеце "Вячэрнія навіны" , што яго сустрэча з Папам Рымскім Бенедзіктам XVI немагчымая.

**Польшча.** У Кракаве развіталіся з сусветна вядомай паэткай, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры Віславай Шымборскай, якая памерла дома ў сне на 89-м годзе жыцця.

**Германія.** Канцлер А. Меркель падчас візіту ў Пекін заклікала Кітай не сумнявацца ў стабільнасці еўра і ЕС, праблемныя краіны еўразоны ўзмацнілі бюджэтную дысцыпліну.

**Расія.** У Маскве актывісты апазіцыйнага руху "Салідарнасць" на высотным будынку насупраць Крамля вывесілі гіганцкі плакат плошчай 140 м2 "Путин, уходи!".

**Чэхія.** Улады краіны ўслед за Англіяй адмовіліся ад удзелу ў дагаворы ЕС аб бюджэтнай стабільнасці, да якога далучыліся астатнія 25 з 27 дзяржаў-членаў Еўрасаюза.

**Егіпет.** У выніку масавай бойкі на стадыёне горада Порт-Саід загінулі 74, каля тысячы чалавек былі параненыя, паліцыя затрымала 49 ініцыятараў гэтых крывавых падзей.

**Сірыя.** На фоне абвастрэння сітуацыі ў краіне жорсткія баі сталі ісці ўжо ў 6 прыгарадах сталіцы, дзе за адны выхадныя сілы бяспекі правячага рэжыму страцілі 52 сваіх байцоў.

**Эстонія.** Урад краіны адобрыў законапраект аб комплекснай тэрапіі і хімічнай кастрацыі злачынцаў на сексуальнай глебе, распрацаваны на аснове існуючага міжнароднага права.

**ЗША.** Зборная РБ па тэнісе з трэскам 0:5 прайграла ЗША матч 1 раунда Кубка федэрацыі, бо адсутнічаў капітан, з-за траўмы спіны з матча знялася 1-я ракетка свету В. Азаранка.

**Сербія.** У многіх раёнах краіны вышыня снежных гурбаў дасягнула 5 метраў, анамальныя сібірскія марозы па Еўропе забралі жыцці да 200 чалавек, замерзла нават Чорнае мора.

**Польшча.** На ўсходнім беразе ракі Вісла ў варшаўскім раёне Прага ўрачыста адкрылі апошні суперсучасны стадыён "Нарадовы" для Еўра-2012 на 50 тысяч месцаў для гледачоў.

# Планучецца павялічыць стыпендыі пры прафесійнай падрыхтоўцы беспрацоўных



■ Марына Носава, БелаПАН

**У Беларусі плануецца павелічэнне стыпендый пры прафесійнай падрыхтоўцы беспрацоўных. Гэта прадугледжана папраўкамі ў закон «Аб занятасці насельніцтва», якія рыхтуюцца да разгляду ў Палаце прадстаўнікоў у другім чытанні, паведаміла намеснік начальніка ўпраўлення занятасці насельніцтва камітэта па працы, занятасці і сацабароне Мінгарвыканкама Таццяна Кудзевіч 15 лютага на прэс-канферэнцыі.**

У прыватнасці, для грамадзян, якія страцілі працу ў выніку мадэрнізацыі вытворчасці і аптымізацыі колькасці работнікаў, пры накіраванні іх органамі занятасці і сацабароны на прафадукацыю прапаноўваецца ўстанавіць стыпендыю ў восем базавых велічынь. Для астатніх катэгорый беспрацоўных прапаноўваецца захаваць дыферэнцыяваны разлік стыпендый у залежнасці ад прычыны страты працы, устанавіўшы яго ад дзвюх да пяці базавых велічынь.

Змены таксама закрануць прызначэнне дапамог па беспрацоўі і стыпендый беспрацоўным, якім раней яны прызначаліся ў мінімальным памеры. Так, грамадзяне, звольненыя паводле ўласнага жадання, але з-за ўважлівай прычыны, змогуць рэалізаваць права на атрыманне стыпендый у павялічаным памеры і прызначэнне дапамогі па беспрацоўі.

Прадугледжваецца прызначэнне стыпендый у перыяд навучання беспрацоўным жанчынам, якія ажыццяўляюць догляд за дзіцем ва ўзросце да трох гадоў.

Законапраект уводзіць артыкул, які вызначае абавязкі беспрацоўных, удакладняе абавязкі наймальнікаў. Прапаноўваецца, каб наймальнік пісьмова на працягу трох дзён інфармаваў органы па працы, занятасці і сацабароне аб увядзенні рэжыму няпоўнага працоўнага часу, а таксама аб утварэнні вольных працоўных месцаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля вяртання з Сочы А. Лукашэнка забараніў Нацбанку РБ друкаваць пустыя грошы, паабяцаў 500 $ заробкаў праз год-паўтара, калі азімыя не прыйдзецца перасяваць.

**Мінск.** У 22 гады мінчанка Вікторыя Азаранка стала 1-й ракеткай свету, у Мельбурне яна заявіла, што беларусы і руская – гэта розныя народы і вельмі адрозніваюцца ментальна.

**Мікашэвічы.** Услед за Столінскім райвыканкамам адміністрацыя РУВП "Граніт" адмовіла ў рэгістрацыі суполцы незалежнага прафсаюза ў колькасці больш 200 работнікаў.

**Мінск.** На пасяджэнні ўрада прэм'ер М. Мясніковіч зноў смела сказаў аб гаротным стане айчыннага АПК, які летась страціў 381 тысячу кароў, амаль што трэцюю частку пагалоўя.

**Хойнікі.** Рэйдавая група на полі ля адселенай вёскі Мокіш знайшла забітую самку зубра, другую – з цяжкім раненнем, мяркуецца, што іх памылкова падстрэлілі іншаземцы.

**Мінск.** Як заўважыў на пасяджэнні калегіі Мінгандлю РБ Сяргей Румас, пакуль рана гаварыць аб поўнай стабілізацыі сітуацыі на спажывецкім рынку, можа вярнуцца дэфіцыт.

**Ліда.** У адной з нядаўніх сталіц "Дажынак" з-за рамонту водазаборнай станцыі "Бароўка" ўзніклі праблемы з вадой для піцця, яна стала пахнуць ацэтонам, патрабавала кіпячэння.

**Мінск.** Шэраг акадэмікаў, вядомых артыстаў, навукоўцаў, дзеячаў айчыннай культуры з Рады беларускай інтэлігенцыі заклікалі народ краіны да актыўнага байкоту выбараў.

**Магілёў.** У Год кнігі дзяржуніверсітэт імя А. Куляшова спыніў набор на навучанне выкладчыкаў беларускай мовы, у Мінску закрылі 4 спецыяльнасці беларускай філалогіі.

**Гродна.** Суд Ленінскага раёна прыгаварыў таксіста, які збіў 3 студэнтаў на пешаходным пераходзе, да 5 гадоў абмежавання волі, штрафу 11 млн. рублёў і аплаты іх лячэння.

**Асіповічы.** Фабрыка пральных парашкоў "Мара" 41-гадовага бізнесмена С. Левіна стала самым паспяховым бізнес-праектам 2011 года і заявала за паўгода 22,5 % гэтага рынку.

**Пінск.** У вёсцы Парахонск воўк напаў і пакусаў спачатку мясцовага паляўнічага, потым накінуўся на вартаўніка калгаса, аднак смелы мужчына задушыў гэтага драпежніка.

**Брэст.** Спецыялісты гараддзела МНС правялі ў горадзе аперацыю па выратаванню лебедзяў і качак, якія зімуюць, яны выразалі для птушак лёд для плавання ў чыстых водах.

**Магілёў.** Следчы камітэт РБ распачаў крымінальную справу супраць 49-гадовага жыхара пасёлка Усход, які няўдала спрабаваў абрабаваць банк, дзе працавала яго аднакласніца.

**Івацэвічы.** У райцэнтры адкрыўся Лядовы палац на 790 месцаў і плавальны басейн коштам каля 50 млрд. рублёў, аднак раён – адзін з самых дэпрэсіўных у Брэсцкай вобласці.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Верхнядзвінск.** Вельмі моцныя маразы прывялі да адключэння падачы электраэнергіі на тэрыторыі раёна з-за пашкоджання паветраных ЛЭП, аварыю аператыўна ліквідавалі.

**Полацк.** Райаддзел Следчага камітэта РБ затрымаў 24-гадовую жыхарку вёскі Саланікі, якая ў лістападзе нарадзіла сына, праз 3 месяцы зарэзала яго, цяпер не можа патлумачыць чаму.

**Гарадок.** Раённы суд пакараў 3 гадамі турмы выконваючага абавязкі кіраўніка гаспадаркі, які летась летам падчас жніва вельмі жорстка збіў падначаленага агранома, зламаў яму рэбрыну.

**Глыбокае.** Калгасы раёна, як і летась, у канцы месяца пачнуць зноў нарыхтоўку лёду на вадаёмах для замены мабільных халадзільных установак і ахаладжэння малака летам.

**Браслаў.** Глава Камітэта дзяржкантролю РБ А. Якабсон нагнаў страху на работнікаў райпо, асабіста выявіў шматлікія парушэнні правілаў гандлю ў крамах гарпасёлка Відзы.

**Наваполацк.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць 31-гадовага рабочага, які раніцай дзёрзска ўкраў у гандлёвым цэнтры "Дыяніс" ЖК-тэлевізар коштам 3,2 млн.

**Орша.** Нечакана для ўсіх білеты на хуткасную швейцарскую электрычку на Мінск сталі дэфіцытам, з-за малога кошту іх сталі раскупляць задоўга да дня паездкі ў сталіцу.

**Мёры.** Суд сурова пакараў двух браканьераў за лоўлю летась рыбы электравудамі, асудзіўшы іх на 4 і 3 гады турмы з адтэрміноўкай прыгавору і да штрафу 83 млн. рублёў.

**Бешанковічы.** Без працы засталася 35-гадовая галоўны бухгалтар адной з арганізацый, райпракуратура завяла справу за крадзёж больш 12 млн. рублёў пазабюджэтнага фонду.

**Талачын.** Сваё геральдычныя сімвалы з'явіліся ў гарпасёлка Коханава – герб і сцяг у выглядзе чырвонага іспанскага шчыта з сярэбраным мячом і 2 парамі залатых паўмесяцаў.

**Паставы.** У лясным масіве ля вёскі Ігнацішкі пагранічнікі сумесна з міліцыяй і ляснічым Лынтупскага лясніцтва знайшлі і знішчылі самагонны міні-завод разам з тонай брагі.

**Віцебск.** У вышэйшай лізе чэмпіянату РБ па футболе засталося 11 каманд замест 12, пасля адмовы ад удзелу ў ім "Партызана" (Мінск), ФК "Віцебск" нават не сталі туды запрашаць.

**Глыбокае.** Псіхічна хворы 41-гадовы інвалід 2-й групы па агульнаму захворванню забіў у цвярозым стане свайго 71-гадовага бацьку і не змог патлумачыць матывы такой агрэсіі.

**Браслаў.** Аператыўнікі РАУС праз месяц знайшлі злодзея, 22-гадовага раней судзімага беспрацоўнага, які ў райцэнтры з рабочага кабінета ўкраў 400 пачак цыгарэт пра запас.

**Віцебск.** З узмацненнем маразоў у мясцовым заапарку для больш тысячы яго жыхароў павялічылі рацыён харчавання, льва перавялі ў цяплейшае памяшканне з печкай.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Сёлета Будслаўскі Фэст адбудзецца 6-7 ліпеня

■ Кастусь Шыталь

Газета Віцебскай дыяцэзіі "Каталіцкі Веснік" паведамляе дату ўрачыстасцяў у гонар Маці Божай, якія штогод адбываюцца ў мястэчку Будслаў Мядзельскага раёна.

Сёлета Будслаўскі Фэст адбудзецца 6-7 ліпеня.

Дагэтуль святкаванні ў Будславе адбываліся кожны год 1-2 ліпеня. Але біскупы пастанавілі перанесці сёлетні Фэст на выходныя, каб болей людзей маглі яго наведаць.

# Шведы жылі ў Дзісне на працягу некалькіх стагоддзяў?

■ Сяржук Васільеў

Дзісна – самы маленькі горад у Беларусі і адно з найбольш старажытных паселішчаў нашага рэгіёна.

Паводле археолагаў, Дзісна заснаваная ў XI стагоддзі. Гэта быў фарпост палачанаў на Заходняй Дзвіне. Дзвіна, як вядома, была адгалінаваннем шляху "з варагаў у грэкі". І па Дзвіне таксама хадзілі варагі, ваенныя дружыны скандынаваў: датчанаў, нарвежцаў і шведаў.

Ці маглі варагі жыць на тэрыторыі сучаснага Мёрскага раёна? Так, сляды іх выяўленыя археолагамі. У прыватнасці, у Прудніках, дзе, мяркуючы па археалагічных знаходках, жыла варажская дружына. Гэтая дружына служыла полацкім князям.

Але вернемся да Дзісны. Да нашых часоў дайшла скарга Вялікага Княства Літоўскага да Лівонскага ордэна, надрукаваная ў энцыклапедыі "Памяць. Мёрскі раён". Там гаворка ідзе пра напады лівонскіх рыцараў з тэрыторыі цяперашняй Латвіі на цяперашнюю Беларусь, пра забойствы людзей, рабаванні, спаленні і ўгоны мясцовага насельніцтва ў палон.

У дакуменце згадваюцца і жыхары тагачаснай Дзісны, якіх крыжакі пагналі ў палон. Дакумент датуецца 1413 годам. Вось імёны дзісненцаў: Салькон, Аўскон, Хецен, Смалькон, Трарэскхкон, Мамельхава, Ігальчон, Хадархон, Хаўрылон.

Ці не дзіўна Вам, чытач? Гэтыя імёны зусім не славянскія, яны шведскія, тым больш, што Швецыя геаграфічна да нас бліжэйшая са скандынаўскіх краін, і, як ужо вышэй згадвалася, скандынавы хадзілі і сяліліся ўздоўж Дзвіны. Дык ці не была наша Дзісна заснаваная і ў старажытнасці заселеная скандынавамі?

Але XV стагоддзе – гэта ўжо амаль 400 год пасля спынення экспансіі вікінгаў. Адкуль у Дзісне ўзяліся жыхары з такімі імёнамі? Яны маглі з'явіцца толькі са Швецыі, і, хутчэй за ўсё, у XI стагоддзі, напрыканцы экспансіі вікінгаў. І ў 1413 годзе ўзгадваюцца іх нашчадкі, якія мелі шведскія імёны, а значыць, хутчэй за ўсё, і размаўлялі на старажытнашведскай мове.

Атрымліваецца, што нездарма шведы маюць такую цікавасць да Дзісны. Можа, яны здагадваюцца, што гэта зямля іх продкаў?



**На жаль, пакуль чыста культурны. У кастрычніку ён стане абавязковым для ўсіх кабельных аператараў краіны.**

# У сакавіку з'явіцца цалкам беларускамоўны канал «Беларусь-3»

Белтэлерадыёкампанія плануе ў сярэдзіне сакавіка 2012 года ў тэставым рэжыме запусціць канал беларускай культуры «Беларусь-3». Пра гэта паведаміў Генадзь Давыдзька.

Чакаецца, што ўжо ў кастрычніку ён увойдзе ў абавязковы пакет кабельных аператараў.

Гэта беларускамоўны тэлеканал, дзе будзе прадстаўлена лепшая дакументалістыка, гістарычныя фільмы, дасягненні сусветнага кінематографа, дубляваныя на беларускую мову, ток-шоу культуралагічнага плану, рэлігійныя праграмы, праграмы для дзяцей, школьнікаў.

Яго стварэнне мяркуецца без прыцягнення бюджэтных сродкаў.

«Гэта тая ніша, якая цяпер не запоўнена. З запускам «Беларусь-3» канал «Беларусь-2» стане канчаткова спартыўна-забаўляльным, а «Беларусь-1» – універсальным каналам.




У перспектыве ў абавязковы пакет кабельных аператараў увойдзе яшчэ і кругласутачны інфармацыйна-аналітычны канал «Беларусь-24», — растлумачыў Генадзь Давыдзька.

Па яго меркаванні, беларуская нацыянальная культура мае патрэбу ў папулярызацыі, і тэлеканал «Беларусь-3» будзе гэтаму спрыяць.

*Паводле БелТА*

# Свядомая Латвія: 75% прагаласавалі супраць афіцыйнага двухмоўя

■ Мікола Бугай

**Нават у Рызе, дзе расейскамоўныя складаюць значную большасць, 60% выбарцаў галасавалі за дзяржаўную латышскую.**

Абаронцы латышскай мовы адказалі на ініцыятыву рэферэндуму кампаніяй Pret, г.зн. Супраць — рашучай, аж да непаліткарэктнасці. Плакат праціўнікаў афіцыйнага двухмоўя: «Скажы яснае не! расейскай мове. На рэферэндуме галасуй супраць двухмоўя».

Вынік плебісцыту па пытанні надання расейскай мове статусу другой дзяржаўнай аказаўся разгромным для ягоных ініцыятараў.

Паводле ЦВК Латвіі, 74,8% выбарцаў прагаласавалі Pret, г.зн. палатышску супраць: то бок за тое, каб адзінай дзяржаўнай мовай заставалася латышская «valoda».

Па-першае, рэферэндум мабілізаваў латышоў, якія звычайна па сваёй палітычнай актыўнасці саступалі расейскамоўным.

У рэферэндуме ўзялі ўдзел больш за 70% выбарцаў. Гэта рэкордная для Латвіі яўка.

Па-другое, ён актывізаваў аматараў латышскай мовы, якія адчулі пагрозу.

І па-трэцяе, ён паказаў, што вялікая доля этнічных расейцаў разумее нацыятворчае і культурнае значэнне латышскай мовы і паважае родную мову карэннага насельніцтва.

«Супраць» галасавала таксама даволі вялікая частка этнічных расейцаў і беларусаў Латвіі.

У прыватнасці, у Рызе, дзе расейскамоўныя складаюць значную большасць, 60% выбарцаў галасавалі супраць афіцыйнага двухмоўя.

Адзіным рэгіёнам, дзе большасць прагаласавала за двухмоўе, стала Латгалія. Гэта вобласць, што мяжуе з Беларуссю, і дзе да першай паловы XX стагоддзя панавала беларуская мова.

Паказальна, што беларусы з таварыства «Світанак» таксама заклікалі суайчыннікаў падтрымаць латышскую мову ў якасці адзінай дзяржаўнай.

Каб унесці праўкі ў Канстытуцыю, было неабходна, каб за наданне расійскай мовы статусу другой дзяржаўнай прагаласавала 770 тыс. Ініцыятар рэферэндуму, былы нацыянал-бальшавік Уладзімір Ліндэрман сам не верыў у поспех і перад галасаваннем заявіў, што маленькай перамогай будзе, калі 300 тысяч чалавек прагаласуюць за расейскую мову, што дасць магчымасць праводзіць новыя акцыі. У рэальнасці, не ўдалося сабраць нават столькі.

Кіраўніцтва Латвіі цешыцца прагрэсу нацыянальнай свядомасці.

На думку латвійскіх палітолагаў, вынікі галасавання — гэта добры знак таго, што нацыянальныя меншасці ўспрымаюць сябе часткай Латвіі і разумеюць значэнне нацыянальнай мовы для будучыні нацыі.

Варта адзначыць, што 290 тыс. жыхароў Латвіі не маюць права голасу як неграмадзяне краіны (не здалі або не захацелі здаваць экзамен на грамадзянства, які ўключае, дарэчы, і моўны тэст).

Аднак нават калі б яны ўсе мелі права голасу, усё адно прыхільнікі адзінай дзяржаўнай латышскай засталіся б у абсалютнай большасці.

Галасавалі таксама латышы за мяжой. Так у Мінску, у пасольстве, прагаласавалі 93 чалавекі, у Віцебскім консульстве – 13.

Моўны рэферэндум у Латвіі меў і палітычнае значэнне, прыданне расійскай мове статусу другой дзяржаўнай азначала б перамогу Расіі і далейшае яе ўмяшанне ў справы Латвіі. Прэзідэнт краіны Андрыс Берзіньш дэманстратыўна прагаласаваў супраць (г.зн. за «латышскую мову»). Таксама за захаванне адзінай дзяржаўнай мовы прагаласаваў прэм'ер Валдас Дамброўскіс.

У той жа час новапрызначаны камісар Еўрасаюза па пытаннях правоў чалавека латыш Нілс Муйжніекс заклікаў латвійскую палітычную эліту да стрыманасці ў моўным пытанні.




**«Скажы яснае НЕ! расейскай мове. На рэферэндуме галасуй СУПРАЦЬ двухмоўя».**

# Міжнародная парламенцкая стыпендыя з практыкай у Германскім Бундэстагу ў 2013 годзе

**Кожны год Германскі Бундэстаг і тры берлінскія ўніверсітэты прадастаўляюць прыкладна 120 маладым людзям з 28 краін магчымасць на працягу пяці месяцаў пазнаёміцца з працэсам прыняцця палітычных рашэнняў і атрымаць практычны досвед у сферы парламенцкай дзейнасці ў Германіі.**

Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) прадугледжана для выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў, якія цікавяцца палітыкай, актыўна займаюцца грамадскай дзейнасцю і маюць вельмі добрыя веды нямецкай мовы.

На момант пачатку праграмы яны павінны быць не старэйшымі за 30 гадоў.



Стыпендыяты змогуць прайсці 15-тыднёвую стажыроўку ў аднаго з дэпутатаў Германскага Бундэстага. Міжнародная парламенцкая стыпендыя доўжыцца з 1 сакавіка па 31 ліпеня 2013 г.

Стыпендыя ўключае расходы на праезд, пражыванне і медыцынскую страхоўку, а таксама штомесячную суму на харчаванне.

Заяўкі на ўдзел у конкурсе прымаюцца да 30 чэрвеня 2012 г. у Пасольстве Германіі ў Мінску.

Больш падрабязную інфармацыю Вы знойдзеце на сайтах Пасольства Германіі ў Мінску www.minsk.diplo.de і Германскага Бундэстага http://www.bundestag.de/IPS

*УНН 101166185.*

■ **Аляксандр Івашчонак**, *бакалаўр гісторыі.*

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

# Мястэчка Глыбокае

## Капліца сьв. Эльяша (Ільлі Прарока)

Апісваючы архітэктурную спадчыну мястэчка Глыбокага, нельга не згадаць аб яскравым прыкладзе класыцызму – капліцы сьв. Эльяша на Копцеўцы. Гэтую капліцу ў 1804 г. пабудаваў прыёр глыбоцкага кляштара айцец Мікалай Будны. Узвёў ён яе ў канцы мястэчка на Глыбоцкіх парафіяльных могілках, на левым баку гэтых могілак. Новая капліца была патрэбная для пахаваньня памерлых манахаў Кармэлітаў, для якіх ужо не было месца ў падзямельлях кляштара.

Дня 11 траўня 1805 г. біскуп мінскі Якуб Дэдэрка асьвяціў гэтую капліцу, надаючы ёй імя апякуна сьв. Эльяша (прарока Ільлі). Аднак галоўнай сьвятыняй, дзеля якой была пабудаваная гэтая капліца, была цудадзейная фігура Пана Езуса Церпячага (у цярновым вянцы, альбо інакш кажучы Антакольскага), тая фігура, якая цудоўным вобразам пацела 10 жніўня 1763 г. Таму ўнутранае аздабленьне капліцы было поўнасьцю прысьвечанае цярпеньням Езуса.

Сама капліца была пабудаваная на прыкладзе рымскіх храмаў. Мела фому прамакутніка даўжынёй 32,5 аршынаў, шырынёй 16 ¾ аршынаў і вышынёй 11 ¾ аршынаў. Была памаляваная глінкай – у падабенстве да мармуру і трывалай да сонца і вады, дах пакрыты гонтам. У франтавых частках капліца мела дзьверы: сьпераду двайныя, якія замыкаліся на засоў знутры, а ззаду адзіночныя, якія замыкаліся на ключ. У сярэдзіне капліца была атынкаваная і пафарбаваная. На сьценах па ўсёй капліцы быў намаляваны Крыжовы Шлях Езуса Хрыста – 14 вялікіх стацый.

Над бабінцам быў пабудаваны хор на двух слупах (калонах). На хоры знаходзіўся арган на 8 галасоў. Капліца мела 10 вакон. А пад самой капліцай было пабудавана падзямельле, але толькі пад алтарнай часткай, таму было вельмі маленькім, займавала толькі шостую частку ўсёй капліцы. Менавіта там ад 1805 г. хаванілі манахаў.

У алтарнай частцы была пабудаваная галерэя ідэнтычная хору над ўваходам. На гэтай галерэі ўверсе, над галоўным алтаром, знаходзіўся яшчэ адзін алтар з абразом сьвятога Ізідара (Ісідора), апякуна земляробаў. У галоўным алтары была фрамуга, у якой знаходзілася цудадзейная фігура Пана Езуса Церпячага ў цярновых вянцы, які сядзеў у чырвоным плашчы са зьвязанымі рукамі і трымаючы белы трыснёг. Пры гэтым алтары было 48 вотаў за атрыманыя ласкі. На правым баку быў яшчэ адзін алтар з абразом сьв. Юрыя. Насупраць гэтага алтара на другім баку быў алтар сьв. Эльяша. Менавіта гэты факт, што ў капліцы сьв. Эльяша галоўны алтар не быў прысьвечаны сьв. Эльяшу, а цудадзейнай фігуры Езуса, сьведчыць аб тым, што капліца была пабудаваная айцом Мікалаем Будным перш за ўсё як сьвятыня, дзе можна будзе аддаваць пашану цудадзейнай фігуры Церпячага Езуса.

Акрамя таго, у капліцы на сьценах віселі розныя партрэты і абразы: сьв. Яна ад Крыжа, папы Клімэнта XIV, Маці Божай Суцяшэньня, Зьвяставаньне, сьв. Казіміра, сьв. Юстына, сьв. Кацярыны, сьв. Веранікі, Сэрца Езуса, Маці Божай Жыровіцкай[1], Езуса Расьпятага, Міхала Арханёла. Акрамя таго, у капліцы быў рэлікварый з мошчамі сьв. Амброзія. У дадатак да гэтага былі драўляныя статуі сьв. Яна Непамуцэна, апосталаў Пятра, Паўла і Яна, статуя Маці Божай Балеснай і 5 статуй анёлаў. У інтэр'еры знаходзілася 6 лавак касьцёльных і 6 крэслаў.

Гэтую капліцу ў 1828 г. прыёр Кармэлітаў айцец Адальбэрты Пчыцкі абнёс вострым парканам з брамай. Пры капліцы пабудаваў званіцу на 4 слупах, пакрытую гонтам з жалезным крыжом на версе. Званіца была пабудаваная паміж двух соснаў і мела 3 званы вагой у 7 пудоў.

У 1861 г. прыёр Кармэлітаў айцец Барталамей Брыдыцкі над уваходам у капліцу змясьціў надпіс па-лацінску: *D. O. M. Fratribus in Christo Carmelitis Discalceatis hic resurectionem expectantibus Ab anno saluto 1642 hoc monumentum Fr. Bartholomaeusa S. Vladislao posunt A.D. 1861.* – што азначае – *Богу Найлепшаму Найвялікшаму. Тут чакаюць ўваскрашэньня ад 1642 году збаўленьня браты ў Хрысьце Кармэліты Босыя. Гэты помнік паставіў брат Барталамей ад сьв. Уладыслава ў 1861 годзе ад нараджэньня Пана.*

Варта дадаць, што згодна з гэтым надпісам, першы памерлы Кармэліт ў Глыбокім быў пахаваны ўжо у 1642 г. На той час яшчэ не былі ўзведзеныя ані крыпты, ані пабудовы самаго кляштара, ані капліцы сьв. Крыжа, ані касьцёла сьв. Тройцы. Таму гэтага памерлага манаха ў 1642 г. пахавалі на мястачковых могілках. Такім чынам, могілкі на Копцеўцы вельмі старажытныя – канец XVI ст. /пач. XVII ст.

Пасьля закрыцьця кляштара Кармэлітаў у Глыбокім, капліца сьв. Эльяша была перададзеная ў 1873 г. праваслаўным, якія пад канец 1877 г. перарабілі яе ў царкву. Менавіта тады былі выкінутыя арганы і алтары, а цудадзейная фігура Церпячага Езуса была перанесеная ў глыбоцкі парафіяльны касьцёл сьв. Тройцы, дзе і знаходзіцца па сёньняшні дзень у капліцы Маці Божай Падхорнай. Адзінае, што захавалася, гэта фрэскі Крыжовага Шляху, якіх праваслаўныя не замалявалі, аднак якія былі зьнішчаныя падчас панаваньня ў Глыбокім "атэістычнага тэрору" (1945-1985). У 1921 г. капліца была перададзеная каталікам, аднак не ўжывалася, так як не была адрамантаваная, бо не хапала грошаў на яе рамонт. У 1927 г. капліцу планавалі вярнуць Кармэлітам, якія нават дзеля гэтага прыехалі ў Глыбокае ў траўні 1927 г., але з-за пратэстаў праваслаўнага сьвятара з Глыбокага, які баяўся, што Кармэліты заберуць таксама свой кляштар і касьцёл, пераробленыя пад царкву, езьдзіў некалькі разоў у Вільню да ваяводы, пішучы розныя скаргі, каб затрымаць перадачу Кармэлітам гэтай капліцы. У хуткім часе ў 1939 г. распачалася II Сусьветная вайна, а 17 верасьня Глыбокае занялі савецкія войскі, што канчаткова спыніла працэс перадачы Кармэлітам капліцы сьв. Эльяша, якая праз увесь час панаваньня "атэістычнага тэрору" (1945-1985) была пакінутая ў ахвяру лёсу.

На пачатку 1990-х каталіцкім пробашчам быў адрамантаваны дах капліцы на чым і спыніўся яе рамонт па сёньняшні дзень. Зараз у гэтай капліцы адбываюцца набажэнствы за памерлых – раз на год 1 лістапада ў Дзень Усіх Сьвятых (Дзяды).

Сёньня адзін з нешматлікіх прыкладаў класыцызму ў Глыбокім – капліца сьв. Эльяша (Ільлі Прарока), чакае ад людзей добрай волі, якія змогуць знайсьці сродкі на яе рамонт (рэстаўрацыю), інакш, гэты гістарычны помнік рассыпіцца на нашых вачах.

*Працяг будзе.*



**Відарыс колішняга мястэчка Глыбокае.** Здымак 1890-х гг.
Яшчэ не перабудваны фарны (парафіяльны) касьцёл сьв. Тройцы і не разабраныя 2 крылы кляштара Кармэлітаў, аднак касьцёл Кармэлітаў ужо перабудаваны пад праваслаўную царкву.



**Капліца сьв. Эльяша (Ільлі Прарока) на Копцеўцы. Роспіс інтэр'еру.** *Архіўны здымак.*



**Капліца сьв. Эльяша (Ільлі Прарока) на Копцеўцы.**



**Капліца сьв. Эльяша (Ільлі Прарока) на Копцеўцы у часы існавання яе як праваслаўнай царквы. Інтэр'ер.** *Здымак 1910-ых гг. Крыніца: Kresy.pl.*

[1] Абраз Маці Божай Жыровіцкай шанаваны ня толькі праваслаўнымі, але і каталікамі. Варта прыгадаць, што цудадзейны абраз знаходзіўся ў кляштары базыльянаў у Жыровічах, першым прыёрам якіх быў сьв. Язафат Кунцэвіч. У Жыровічы з паломніцтвам былі каралі: Ян Казімір, Міхал Вішнявецкі, Ян III Сабескі, які падараваў Маці Божай Жыровіцкай сваю шаблю зь бітвы пад Венай з 1683 г. Маліліся перад цудадзейным абразом і Аўгуст II Моцны і Станіслаў Панятоўскі. Сам цудадзейны абраз Маці Божай Жыровіцкай быў каранаваны 19 верасьня 1739 г. папскімі каронамі папы Бэнэдыкта XIII. Толькі ў 1839 г. пасьля скасаваньня ўніі цудадзейны абраз забралі праваслаўныя манахі з Расеі. Сёньня ў Жыровіцах знаходзіцца праваслаўная сэмінарыя. На цяперашні час у Беларусі ёсьць толькі тры цудадзейныя абразы, каранаваныя папскімі каронамі – гэта абраз Маці Божай Будслаўскай (1995 г. папа Ян Павел II), абраз Маці Божай Браслаўскай (2010 – папа Бэнэдыкт XVI) і абраз Маці Божай Жыровіцкай (1739 – папа Бэнэдыкт XIII).

■ Завадскі А.І.,
*старэйшы Дзяржаўтаінспектар АДАІ .*

# АДАІ праводзіць мерапрыемства «Зімовая дарога»

**Дзяржаўтаінспекцыя інфармуе ўдзельнікаў дарожнага руху пра тое, што з 20.02.2012 года па 03.03.2012 года на тэрыторыі раёна праводзіцца аператыўна-прафілактычнае мерапрыемства «Зімовая дарога». Падчас аперацыі работнікамі АДАІ праводзіцца прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на арганізацыю бяспекі дарожнага руху, а менавіта:**

● падчас праводзімых выступаў сярод вадзіцеляў звяртаем іх увагу на тое, што ў зімовых умовах бяспека на дарогах шмат у чым залежыць ад паводзін вадзіцеляў і выканання імі элементарных правілаў дарожнага руху. Для вадзіцеляў асаблівa важныя максімальная асцярожнасць і ўвага, умелыя граматныя дзеянні, правільны выбар хуткасці руху з улікам пэўнага дарожнага становішча. Пры ўстойлівай страце счаплення колаў з дарогай узнікае занос аўтамабіля. Калі занос стаўся пры тармажэнні, то трэба адпусціць педаль тормазу. Пры невысокай хуткасці руху ён спыніцца. Калі бакавое слізгаценне працягваецца, то неабходна хутка павярнуць руль у бок заносу, адчуць эфект ад павароту руля (спыненне заносу) і пачынаць зваротнае яго кручэнне, апярэджваючы новы занос;

● з боку Дзяржаўтаінспекцыі ажыццяўляецца кантроль за працай дарожных і камунальных арганізацый у частцы расчысткі і падсыпкі вуліц і дарог пяшчана-салянай сумессю;

У выпадку рэзкай змены пагодных умоў, а менавіта: завеі, снежных намецяў, галалёду, рэкамендуем вадзіцелям скараціць колькасць паездак, якія не звязаны з крайняй неабходнасцю.

На аварыйнасць у зімовых умовах уплываюць галоўным чынам парушэнне дыстанцыі і хуткасных рэжымаў, а таксама самаўпэўненасць вадзіцеляў

Калі вы станеце сведкамі таго, што пасля снегапада не расчышчаны ў нейкай мясцовасці дарогі, што дарожнае пакрыццё не апрацавана, просім Вас патэлефанаваць у дыспетчарскую службу дарожных або камунальных арганізацый:

● Па г. Глыбокае і ў г.п. Падсвілле дарогі абслугоўвае РУП ЖКГ: тэл.: 2-23-38.

● Рэспубліканскія аўтадарогі: Полацк-Глыбокае-мяжа Літвы і Лагойск-Зембін-Глыбокае-мяжа Латвіі абслугоўвае ДЭУ-35, тэл.: 2-69-76.

● Мясцовыя аўтадарогі абслугоўвае ДРБУ-145, тэл.: 2-33-46, або ў Дзяржаўтаінспекцыю па тэлефоне: 2-27-78.

■ І.В. Федаровіч,
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

АДЗІНЫ ДЗЕНЬ БЯСПЕКІ ДАРОЖНАГА РУХУ

Праводзіцца 24 лютага 2012 года

# Кошт памылкі- жыццё!

**Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху!**

Кожны з нас з'яўляецца датычным да дарожнага руху, няхай гэта будзе вадзіцель, пасажыр ці пешаход. Ніхто свядома не імкнецца павялічыць «крывавыя» паказчыкі сумнай статыстыкі. Аднак кожны год у аўтааварыях гінуць і атрымліваюць цялесныя пашкоджанні нашы грамадзяне. Практычна ніхто не задумваецца над тым, што можа апынуцца ў ліку пацярпелых і пра тое, што дарога не даруе памылак.

Асноўнымі прычынамі здзяйснення дарожна-транспартных здарэнняў з'яўляюцца: перавышэнне хуткасці руху, парушэнні правілаў абгону, якія цягнуць за сабой лабавыя сутыкненні, здзяйсненне абгону на пазначаных і рэгулюемых скрыжаваннях, абгон на пешаходных пераходах і бліжэй за 50 метраў ад іх у абодва бакі, абгон пры недастатковай бачнасці дарогі або перад сустрэчнай аўтамашынай, якая набліжаецца, няўважлівасць вадзіцеляў, у тым ліку і пры гутарцы падчас руху па мабільным тэлефоне, парушэнні правілаў дарожнага руху

Асноўнымі прычынамі здзяйснення ДТЗ з удзелам пешаходаў з'яўляюцца: знаходжанне ў цёмны час сутак на праезнай частцы неасветленых вуліц і дарог без святлоадбівальных элементаў, перасоўванне па праезнай частцы ў стане алкагольнага ап'янення, раптоўны выхад на праезную частку перад транспартам, выхад на праезную частку з-за стаячага транспартнага сродку.

Пра небяспеку кіравання транспартных сродкаў у зімовы перыяд мы ўжо публікавалі артыкулы ў раённай газеце, але не гледзячы на гэта яшчэ раз заваstraем увагу на выкананні правілаў дарожнага руху, асабліва ў г. Глыбокае і на аўтадарозе Полацк-Глыбокае-мяжа Літвы. У апошні час адзначаецца рост парушэнняў ПДР, якія дапускаюць вадзіцелі пры абгоне, хуткасным рэжыме, пропуску пешаходаў пры іх перасоўванні па пешаходных пераходах.

Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху, заклікаем Вас да ўважлівасці і выканання правілаў дарожнага руху, давайце сумеснымі высілкамі навядзём парадак на дарогах нашага горада і раёна.

■ Ішуцін А.Н.,
*інспектар Глыбоцкай МРА інспекцыі Энерганагляду.*

# Першым чынам – электрабяспека!

У штодзённым жыцці чалавека могуць падцікоўваць рознага роду небяспекі, да якіх у сваю чаргу адносіцца і электрычны ток. Электрычная энергія нясе ў сабе асаблівую небяспеку для жыцця чалавека, калі з ёй няправільна ці нядбайна абыходзіцца. Небяспека заключаецца яшчэ і ў тым, што органы пачуццяў чалавека не рэагуюць на пагрозу, якую ўтойвае электрычны ток. Электрычны ток паражае раптоўна. У залежнасці ад велічыні току, часу яго ўздзеяння на чалавека электрычны ток можа выклікаць электратраўмы, спыненне дыхання і нават смерць.

Для таго, каб не здарылася няшчасце, неабходна цвёрда ведаць і выконваць асноўныя правілы электрычнай бяспекі:

● Выразна ўяўляць небяспеку паражэння электрычным токам.

● Катэгарычна забараняецца залазіць на апоры ВЛ, дахі мабільных вагонаў, будынкаў, дзе блізка праходзяць электрычныя правады.

● Для папярэджання людзей аб небяспецы на вонкавых частках электраўстановак наносяцца перасцерагальныя плакаты.

● Неабходна ведаць, што смяротна небяспечна не толькі дакранацца, але і падыходзіць бліжэй, чым на 8 метраў да ляжачага на зямлі абарванага провада ці лініі электраперадач.

● Бытавыя прыборы і пераносныя свяцільні напругай 220В прызначаны толькі для карыстання ў памяшканнях і ўдалечыні ад металічных труб і канструкцый, якія маюць сувязь з зямлёй.

● Забараняецца дакранацца адначасова да электрапрыбораў і якіх-небудзь трубаправодаў, батарэй ацяплення, металічных канструкцый, якія звязаныя з зямлёй.

● Нельга карыстацца выключальнікамі, разеткамі, вілкамі, кнопкамі званкоў з пабітымі крышкамі.

● Не забывайце аб асаблівай небяспецы пры дакрананні да асвятляльнай арматуры мокрымі рукамі.

● Будзьце ўважлівыя пры карыстанні электрычнай энергіяй і строга выконвайце правілы электрабяспекі, дзе б Вы не былі.

● Не падвяргайце небяспецы сваё жыццё і жыццё сваіх блізкіх, патрабуйце выканання мер засцярогі ад усіх акружаючых.



## МНС інфармуе на 21.02.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 246;
Гібель людзей – 36, з іх 2 дзіцяці;
Урон – 1254,1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 18;
Гібель людзей – 3, з іх дзяцей няма;
Урон – 108 550 000 руб.

■ А.В. Протас ,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# З 1 сакавіка настае забарона на лоўлю шчупака

**У Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету вельмі часта звяртаюцца грамадзяне, рыбаловы-аматары, з просьбай растлумачыць інфармацыю пра тое, ці могуць быць падоўжаныя тэрміны лоўлі шчупака ў сакавіку месяцы.**

Паводле Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у выпадку змены пагодных умоў, якія ўплываюць на размнажэнне рыбы, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа прыняць рашэнне пра змену тэрмінаў забароны, усталяваных гэтымі Правіламі, як на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, так і ў асобных абласцях, не памяншаючы пры гэтым агульную працягласць забароны. У цяперашні момант, ніякіх дадаткаў і змен няма, а таму з 1 сакавіка настае забарона на лоўлю шчупака.

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях з асобінамі шчупака, будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь, а ўрон за вылаўленую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры ці 105 тысяч рублёў за адну асобіну шчупака. У выпадку, калі сума прычыненай шкоды будзе перавышаць 40 базавых велічынь у адносінах парушальніка ўзбудзяць крымінальную справу.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя растлумачвае таксама, што паводле Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у выпадку ўзнікнення ў рыбалоўных угоддзях заморных з'яў, пацверджаных дадзенымі гідрахімічных даследаванняў, праведзеных атэставанымі лабараторыямі, парадак і ўмовы ажыццяўлення лоўлі рыбы вызначаецца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненні з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і са структурнымі падраздзяленнямі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Нашы грамадзяне ўсё часцей карыстаюцца чуткамі па прынцыпу "адна бабка сказала", так 18 лютага 2012 года пры правядзенні рэйдавых мерапрыемстваў на тэрыторыі раёна за парушэнне Правілаў рыбалоўства, а менавіта непадпісаныя ва ўсталяваным парадку жарліцы, затрымана 6 грамадзян. Усе парушальнікі як адзін пераконвалі інспектараў у тым, што падпісваць жарліцы з гэтага года не трэба, але дзе яны бачылі змены ў Правілах, ніхто не адказаў, усё карысталіся толькі чуткамі. Вінаватыя прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці. Вельмі часта рыбаловы-аматары не жадаюць купляць пуцёўку на платную аматарскую рыбалку. На невялікай колькасці вадаёмаў раёна арандатары маюць права, абавязаны, прадаваць пуцёўкі. Гэта, азёры: Бярозаўскае, Карпікі, Чачалі, Гулідаўскае, Ластавіцкае, Крывое-2, Свядава. Пры затрыманні грамадзян без пуцёўкі на дадзеных вадаёмах, іх дзеянні можна расцэньваць як браканьерства, штраф ад 10 да 50 б.в. Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 ці маб. 897-23-02, 890-55-28. 249-45-49.

